№ 19 (1832)

Серада, 4 лютага 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -1...+1, уначы — -1...+1, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +1...+3, уначы — +8...+10, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — 0...+2, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — -3...-1, снег, уначы — 0...+2, дождж; у Гомелі ўдзень — -6...-4, без ападкаў, уначы — -1...+1, дождж; у Магілёве ўдзень — -4...-2, снег, уначы — -1...+1, дождж.

*www.meteo.by*

Пейджынгавую сувязь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ пейджинг-система
(017) 222-46-51
(017) 222-46-52

**ПУЛЬС**

## З 1 лютага ў Беларусі на 1,5 працэнта павышаны тарыфы на электраэнергію для насельніцтва

З 1 лютага ў Беларусі на 1,5 працэнта праіндэксаваныя дзеючыя тарыфы на электраэнергію для насельніцтва. Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве эканомікі, адпаведная пастанова прынята Мінэканомікі 30 студзеня.

Такім чынам, з 1 лютага тарыф на электрычную энергію для гарадскога і сельскага насельніцтва склаў **72,7** руб. за 1 кВт/г.; для гарадскога насельніцтва ў дамах, абсталяваных электраплітамі, — 52,8 руб. за 1 кВт/г.

Папярэдняя індэксацыя тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва рабілася ў студзені 2004 года. Студзеньскі тарыф на электрычную энергію для гарадскога і сельскага насельніцтва складаў 71,6 руб. за 1 кВт/г., для гарадскога насельніцтва ў дамах, абсталяваных электраплітамі, — 52 руб. за 1 кВт/г.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Курэй «прашчупаюць» на грып

*Міністэрства аховы здароўя Беларусі ўзмацніла эпіднагляд у дачыненні да рэспіраторных захворванняў і пнеўманій невядомай этыялогіі, асабліва сярод асоб, якія маюць кантакты са свойскай птушкай.*

Як паведаміў БелаПАН галоўны эпідэміёлаг міністэрства Анатоль Кажамякін, такія захады робяцца ў сувязі з эпідэміяй курынага грыпу сярод свойскай птушкі ў краінах Азіі.

Нагадаем, што з 13 студзеня Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі ўвяло забарону на ўвоз на тэрыторыю краіны птушкі з сямі азіяцкіх краін: В'етнама, Паўднёвай Карэі, Японіі, Камбоджы, Таіланда, Лаоса і Пакістана. Акрамя таго, робяцца захады па недапушчэнні заносу інфекцыі на птушкафермах і птушкафабрыках краіны. Так, строга абмежавана наведванне гэтых гаспадарак, узмоцнена жорсткасць кантролю за транспартам, які падвозіць кармы, а таксама больш дакладна робіцца бягучая ўборка і дэзінфекцыя.

Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, на 1 лютага ад гэтага цяжкага рэспіраторнага захворвання ў Паўднёва-Усходняй Азіі памерлі восем чалавек.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Фірменна і танна

*Беларуская чыгунка прыняла рашэнне аб зніжэнні кошту праезду ў некаторых фірменных цягніках.*

Як паведамілі БелаПАН спецыялісты аддзела інфармацыі і рэкламы Беларускай чыгункі, з 5 лютага і да ўводу новага графіка руху пасажырскіх цягнікоў (май 2004 года) устанаўліваецца каэфіцыент 1,2 замест 1,5 для фірменных цягнікоў №40/39 Полацк—Масква, №52/51 Мінск—Санкт-Пецярбург, №56/55 Гомель—Магілёў—Масква, №78/77 Гродна—Масква.

Спецыялісты патлумачылі, што апошнім часам адзначана зніжэнне пасажырапатоку па гэтых кірунках і адбываецца гэта шмат у чым з-за высокага кошту праезду. Акцыя, якую праводзіць Беларуская чыгунка да ўводу новага графіка руху пасажырскіх цягнікоў, мае на мэце прыцягнуць пасажыраў. Напрыклад, па разліках спецыялістаў, пасля паніжэння каэфіцыенту кошт праезду ў купейным вагоне ад Мінска да Масквы знізіцца на 14 тыс. рублёў.

## Няблага едзем...

*Экспарт аўтатранспартных паслуг за 2003 год склаў у Беларусі 230 млн. долараў ЗША і вырас да ўзроўню мінулага года на 24,4 працэнта.*

Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Міністэрства транспарту і камунікацый.

Па выніках 2003 года падведамаснымі прадпрыемствамі Мінтранса дасягнуты прагназуемы паказчык па росце аб'ёму перавозак грузаў, які склаў 103,3 працэнта пры заданні 101 працэнт.

Больш чым у 2 разы зніжана ўтвораная ў 2002 годзе запазычанасць за спажытыя энергарэсурсы. Таксама выканана ўстаноўленае заданне па скарачэнні аб'ёмаў спажывання паліўна-энергетычных рэсурсаў. Спажыванне знізілася на 5,5 тыс. тон умоўнага паліва, ці на 7 працэнтаў, у выніку чаго атрыманы эканамічны эфект у суме 950 млн. рублёў.

Прыцягнута інвестыцый у асноўны капітал у памеры 170,7 млрд. рублёў, ці 111,7 працэнта. Забяспечана станоўчае сальда знешняга гандлю паслугамі. У 2003 годзе таксама ўведзена ў дзеянне амаль 55 кіламетраў рэспубліканскіх дарог агульнага карыстання.

**Аляксей АРЭШКА.**

**ЧУЛІ?**

# Прэзідэнт Еўрапарламента лічыць кіраўніцтва Беларусі ненадзейным партнёрам

*Але так было не заўсёды*

Днямі ў польскай сталіцы з афіцыйным візітам знаходзіўся прэзідэнт Еўрапейскага парламента **Пэт КОКС.** Падчас выніковай прэс-канферэнцыі спадар Кокс закрануў тэму перспектыў супрацоўніцтва пашыранага Еўрасаюза з Беларуссю. Вось як ён адказаў на пытанне варшаўскага карэспандэнта Радыё "Свабода": *"Увогуле ў Еўрапейскім парламенце пануе думка, што пасля пашырэння Еўрасаюза трэба больш актыўна развіваць усходні накірунак палітыкі аб'яднанай Еўропы. А Беларусь з'яўляецца выключна складаным выпрабаваннем для здзяйснення гэтай палітыкі. Справа ў тым, што для таго, каб рабіць палітыку, трэба мець надзейных партнёраў. Да таго ж еўрапейская палітыка робіцца з верай у пэўныя вартасці — дэмакратыю, правы чалавека, вяршэнства закону ды шмат іншых. Калі казаць шчыра і паспрабаваць пры гэтым быць вельмі дыпламатычным, дык сярод кіраўніцтва Беларусі мы, напэўна, не знойдзем такіх партнёраў. Я б хутчэй казаў пра вельмі нацягнутыя паводзіны Еўропы ў дачыненнях да Беларусі — не з самімі беларусамі, а менавіта з кіраўніцтвам гэтай краіны".*




Пра тое, што насцярожана ставяцца да цяперашняга беларускага кіраўніцтва не толькі ў самай уплывовай еўрапейскай установе — Еўрапарламенце, але і ў іншых палітычных структурах аб'яднанай Еўропы сведчаць і вынікі апошняй сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая завяршылася днямі ў Страсбургу. Удзельнік пасяджэнняў — намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Яраслаў РАМАНЧУК** даў такі каментарый "Народнай волі":

— Першы вынік сесіі — гэта рашэнні, прынятыя ў ПАСЕ адносна Палаты прадстаўнікоў. Калі ў "палатцы" не створаць камісію па справах зніклых, не выкажуць сваю дакладную пазіцыю на гэты конт, то шлях яе дэпутатаў у ПАСЕ "заказаны", нават нефармальная прысутнасць "палатнікаў" на мерапрыемствах гэтай арганізацыі будзе непажаданай. Гэтае рашэнне грунтуецца на тым, што ў Беларусі знікаюць палітыкі, ёсць склад крымінальнага злачынства, а парламентарыі, якія павінны сачыць за законнасцю, не прымаюць абсалютна ніякіх мер для таго, каб гэтыя злачынствы былі выкрыты. Гэта, з пункту гледжання еўрапарламентарыяў, нонсенс.

**— Калі размаўляць не толькі пра Палату прадстаўнікоў, а наогул пра Беларусь, якія наступствы, на Ваш погляд, чакаюць Беларусь пасля апошніх рашэнняў у ПАСЕ, а таксама нядаўна выказанай пазіцыі кіраўніка Еўрапейскага парламента?**

— Наступствы могуць быць самыя сумныя. Калі апошняя рэзалюцыя юрыдычнага камітэта ПАСЕ будзе прынята на пленарным пасяджэнні ў красавіку, то думаю, што да восені Еўрапейскі парламент, Еўракамісія разгледзяць гэтае пытанне — і хуткае ўвядзенне санкцый у адносінах да Беларусі я лічу непазбежным. Гэтаму спрыяе і тое, што адначасова можа завяршыцца расследаванне справы с незалежнымі прафсаюзамі — занадта многа сцяжынак зыходзіцца ў адным месцы. Санкцыі могуць быць не толькі эканамічныя — напрыклад, могуць увесці пэўныя візавыя абмежаванні. Я таксама не выключаю магчымасці ўзбуджэння крымінальных спраў у шэрагу краін — членаў Еўрапейскага Саюза супраць пэўных службовых асоб Беларусі. У любым выпадку прадстаўнікі Адміністрацыі прэзідэнта і Нацыянальнага сходу Беларусі будуць, безумоўна, мець праблемы ў стасунках з еўрапейскімі структурамі. Таму што менавіта на іх ляжыць асноўная адказнасць за тую патавую сітуацыю, якая існуе. Каб выйсці з такой сітуацыі, трэба даказаць, што гэта не пазіцыя афіцыйных улад, а проста злачынствы, якія па тым ці іншым прычынам не былі расследаваны.

Дарэчы, тупік у зносінах паміж кіраўніцтвам Еўрасаюза і Беларусі існаваў не заўсёды. Узгадваючы зусім нядаўнюю гісторыю, былы кіраўнік дзяржавы, спікер Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Станіслаў ШУШКЕВІЧ** паведаміў "Народнай волі", што вышэйзгаданыя зносіны былі на пачатку 90-х гадоў амаль ружовымі:

— У нас не было ніякіх праблем. З самых першых гадоў беларускай незалежнасці кіраўніцтва Беларусі актыўна запрашалі ў замежныя краіны — і мяне, і Кебіча (кіраўнік урада ў той час. — **А.С.**), і міністра замежных спраў, іншых чыноўнікаў. Запрашэнняў было так шмат, што мы адчувалі пэўныя цяжкасці ў выбары, куды ехаць. Мы ўдзельнічалі ў сусветным эканамічным форуме ў Давосе. Проста жудасна, што на гэты форум нас больш не запрашаюць, а гэта значыць, краіна страчвае вялікія сумы патэнцыйных замежных інвестыцый. Я сам ездзіў два разы ў Давос, рабіў там некалькі справаздач. Я выступаў у Страсбургу, запрашаўся ў Савет Еўропы. Усюды падпісваліся разнастайныя пагадненні — каб людзі працей ездзілі, каб можна было займацца бізнесам, каб не было двайнога падаткаабкладання (дарэчы, усе тыя пагадненні працуюць да гэтага дня). Нас хацелі чуць у той час у Еўропе, намі цікавіліся...

**Алесь СІЛІЧ.**

**МОСКВА—МИНСК**

# Иванов расставил все точки над белорусскими «і»

*Под таким заголовком в российской "Независимой газете" помещена статья, фрагменты которой приводим ниже.*

"Состоялся рабочий визит в Минск министра иностранных дел РФ Игоря Иванова. Официальной целью его приезда стало участие в третьем совместном заседании коллегий МИД России и Беларуси, на котором обсуждалась совместная стратегия действий двух стран во внешней политике. Однако никакие судьбоносные решения на сей счет даже не планировались. А поэтому белорусские эксперты заранее предполагали, что истинная причина приезда Иванова связана с намерением Москвы расставить все точки над "і" в затянувшихся переговорах о поставках российского газа...

Напомним, что в январе "Газпром" полностью приостановил поставки газа в республику. А в конце месяца истек срок контрактов Минска с независимыми поставщиками — "Итерой" и "Транснафтой". Эти соглашения были продлены буквально за несколько часов до планировавшегося полного прекращения газообеспечения страны.

Официальные структуры в Минске не комментировали информацию о том, что во время визита Иванова обсуждался вопрос дальнейшего сотрудничества белорусского правительства с "Газпромом". Российская сторона заранее жестко заявила, что рассматривает газовую проблему как "спор хозяйствующих субъектов", не имеющий политической подоплеки. Соответственно Москва дистанцировалась от просьб Минска о воздействии на "Газпром".

На прошлой неделе российский секретарь Совбеза Рушайло обсуждал с белорусской стороной вопросы, связанные с укреплением общей системы безопасности в свете приближения баз НАТО к границам Союзного государства. Уже готов проект договора о совместной границе Союзного государства, который может быть подписан к середине лета. Также прорабатываются соглашения между двумя странами об использовании миграционных карт единого образца, о совместной охране внешней границы в воздушном пространстве и создании единой региональной системы ПВО Беларуси и России. Таким образом, на сегодня между двумя союзными государствами проблемы остаются, похоже, только в ключевой для Минска сфере энергетики".

**Нельзя не обратить внимание на последние строки статьи в российской "Независимой газете". Если верить ей, то получается, что Россия уже как бы втягивает, засасывает Беларусь. Ведь получается, что у нас скоро будет совместная граница, единая система ПВО, совместная охрана границы в воздушном пространстве, хотя не совсем ясно, что это такое: оно наше или уже российское? Не стремится ли белорусский режим такой дорогой ценой обезопасить себя от мнимых угроз?!**

**Сергей ИВАНОВ.**

## Во паднялі дык паднялі!

*Пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі з 1 лютага павялічаны памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.*

Як паведамілі БелаПАН у Мінпрацы і сацабароны, у сярэднім рост дапамог складзе 4 працэнты. Зараз гэтая пастанова знаходзіцца на рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі. Разам з тым плануецца, што аднаразовая дапамога пры нараджэнні дзіцяці складзе 226 тысяч 380 рублёў, аднаразовая дапамога жанчыне, якая стала на ўлік да 12 тыдняў цяжарнасці, складзе 113 тысяч 190 рублёў, штомесячная дапамога па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў у поўнай сям'і з працуючымі бацькамі або апекунамі - 73 тысячы 570 рублёў, штомесячная дапамога па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў непрацуючым бацькам або апекунам складзе 39 тысяч 620 рублёў.

Спецыяліст адзначыла, што новыя памеры дапамог будуць дзейнічаць да 30 красавіка гэтага года.

**Вольга АСІПЕНКА.**

**НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ**

# Паляванне на ТБМ

**Вольга ІПАТАВА**

На адной з сустрэч з чытачамі мне задалі пытанне — як жывуць зараз беларускія пісьменнікі, якія не славяць уладу, а кіруюцца законамі сумлення? "Як стронга", — адказала я. Удакладняць было не трэба: гэтая аўдыторыя ведала, што фарэль жыве ў чыстай вадзе і кіруе супраць плыні.

На самай справе гэта быў занадта паэтычны вобраз. Сённяшняй стронзе трэба выжываць у вадзе бруднай і ядавітай, яе бесперастанку труцяць хімікаліямі і нястомна спрабуюць "выціснуць" з рэчак нашага беларускага жыцця.

Пацвярджэнне гэтаму — чарговая спроба "наезду" на Таварыства беларускай мовы.

У сённяшнім грамадскім жыцці гэта — самая актыўная, жыццяздольная і энергічная структура, якая мае падтрымку ў самых далёкіх мястэчках і вёсачках Беларусі. Яе адрозненне ад іншых, у тым ліку палітычных арганізацый, на мой погляд, у тым, што пратэстнага ў ёй меней, чым у іх, а вось любові, таго сакральна-патаемнага, што жывіць нацыю, — найболей. Сёння той, хто на пачатку Адраджэння 90-х біў сябе ў грудзі і спадзяваўся на нейкія дывідэнты ад беларускасці, сядзіць сабе ціха, а ў горшым выпадку зноў стаў "інтэрнацыяналістам." Тыя ж, хто не па загадзе, не па нейкай выгадзе для сябе прапагандавалі нацыянальную літаратуру, любілі беларускае слова, засталіся тымі ж. Больш таго — яны смела ішлі насуперак таму адкату ад нацыянальнага, які імкліва распачаўся з 1994 года. Варта ўзгадаць адну Марыю Мацюкевіч з Салігорска, чыя сумная гадавіна смерці прыйшлася на сёлетнія Каляды. Гадамі яна, простая настаўніца, ладзіла ў сваім горадзе цэлыя фестывалі беларускай паэзіі, знаходзіла спонсараў, угаворвала пісьменнікаў, у якіх заўсёды няма часу, прыехаць і выступіць у школах і тэхнікумах. Згарэла яна, як знічка, пасля таго як быў забіты яе сын, а забойцаў не знайшлі, паколькі, як гаварылі ў горадзе, і не асабліва шукалі...

А ці ж яна адна гарэла любоўю да роднага слова? Такіх людзей, хто гатовы на актыўнае дзеянне, а не толькі на размовы ды енкі, калі і не так шмат, як хацелася б, то ўсё ж яны ёсць. Менавіта іх і актывізуе, і арганізоўвае сёння для канкрэтных спраў Таварыства беларускай мовы. У каго яшчэ шукаць ім падтрымкі, разумення ды ацэнкі сваёй працы? У аддзелаў адукацыі, якія, хочуць яны таго ці не, змушаны выконваць дырэктывы зверху ды скасоўваць беларускія школы? У аддзелаў культуры, якія не ў стане забяспечыць бібліятэкам сродкі на набыццё кніг сучасных беларускіх аўтараў? У райвыканкамаў, якія б'юцца за надоі ды кармы для згалелых калгасаў і пасылаюць на буракі і бульбу тых, хто фінансава цалкам залежыць ад іх, — настаўнікаў ды бібліятэкараў, якія не ўдасканальваюць свае веды за сучаснымі часопісамі, а з калгасных палёў бягуць на ўласныя соткі, каб дашчэнту не змізарнець на сваіх нікчэмных заробкахі

Ідуць і едуць энтузіясты беларускай нацыянальнай ідэі ды беларускага слова на сядзібу ТБМ — там ладзяць семінары, заўсёды прапануюць новае і вучаць на ўласным прыкладзе, як умудрыцца выпускаць газету ( а цяпер — не толькі "Наша слова", але і "Новы час") не на дзяржаўныя, а на грамадскія, на нашы з вамі грошы. Тут раскажуць пра новыя кнігі, што выйшлі ў недзяржаўных выданнях, і іх можна пагартаць тут жа, на пастаяннай выставе самых апошніх па часе выдання кніг і часопісаў.

Канешне, вялікая заслуга ў тым самога старшыні ТБМ Алега Анатольевіча Трусава, які здолеў стварыць зладжаны ды працаздольны калектыў там, дзе не раз ужо рабіліся спробы ягонага руйнавання.

Так, гэтае дзікунства — інакш яго не назавеш — ужо не раз адбывалася ў нашай найноўшай, дзесяцігадовай "ледніковай эпосе". Ужо вывозілі адсюль, з сядзібы ТБМ, на трактарах бясцэнныя кнігі, выкідалі з такой цяжкасцю знойдзеную ды прывезеную мэблю, закідвалі штрафамі. За што? За любоў да таго, што за тысячагоддзі гісторыі назапасілі продкі, і найперш, канешне, за мову, "якой азваўся беларус". Без мовы яго даўно ўжо не было б, як няма *эрзя, меры, чудзі* і іншых народаў, ад якіх засталося толькі паўзняважлівае блокаўскае "чудь начудила да меря намерила" і якія растварыліся ў вялізным рускім этнасе.

У любові ёсць свае законы, непадуладныя ніякім высілкам мэтазгоднасці і нават уласнай бяспекі. і ў гэтым — трывушчасць мовы, нягледзячы ні на што. Хто з тых, "прадзвінутых" настолькі, што яны грэбуюць родным, адкажа на простыя пытанні — чаму ты не хочаш знікаць, беларус? Чаму ты, беларускі інтэлігент, ледзь утварыўся продых у задушлівым цяжары імперыі, з такой самаадданасцю ўзяўся аднаўляць гераічныя ўчынкі продкаў, якія адчайна, ад стагоддзя да стагоддзя, баранілі свой лад жыцця, сваю зямлю? Няўжо ты не бачыш, з якім імпэтам палююць на кожнага твайго суродзіча, які не хоча аддаваць сваіх дзяцей на згубу за чужыя нам геапалітычныя і эканамічныя інтарэсы?



І — няўжо ж ты не падтрымаеш, не абароніш гэтага свайго суродзіча, калі ўжо сам не хочаш выходзіць з-пад цёплай страхі, каб нешта канкрэтнае зрабіць для агульнай нашай справы — захавання Беларусі?

Паляванне ідзе, як кажуць, амаль на "ўсіх франтах". Пазалетась так палявалі на Саюз пісьменнікаў. Загналі яго ў даўгі, прытрымліваючы ад рашучых дзеянняў абяцанкамі на розных, самых высокіх дзяржаўных узроўнях, стварылі гвалтоўны холдынг, спрабавалі раздзяліць, каб лягчэй было вылучыць самых непакорлівых і накінуць на іх удаўку. Не ўдалося. Саюз працуе, праводзяцца вечарыны, прымаюць у сябры нашай творчай арганізацыі новых маладых сяброў. Нягледзячы на тое, што сучаснай беларускай кнізе неверагодна цяжка дабрацца да чытача ў глыбінку, апроч таго, на друкаваныя выданні простай сям'і падпісацца таксама праблематычна, усё ж , як парасткі скрозь асфальт, прабіваюцца ў мястэчкі ды гарады і сучасныя аўтары. І для любога, хто хаця трохі разбіраецца ў літаратуры, відавочна — яна жыве, нягледзячы на тое, што па тэлебачанні нядаўна зноў прагучала, што беларускай літаратуры нібыта няма.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**КРИМИНАЛ**

## Чиновники уже дают взятки друг другу?

В Минске в момент получения взятки прямо на улице Тимирязева сотрудники ОБЭП задержали главного инспектора Фрунзенского отдела социальной защиты населения.

Сам по себе факт обыденный, особенно если учесть, что далеко не всякое подобное уголовное деяние до суда доходит. Еще доказать надо. Но если в этом случае получится, то история отчественного мздоимства пополнится весьма оригинальным случаем. Всего каких-то 250 тысяч рублей чиновнице вручила другая чиновница — главный бухгалтер ЖЭС-47. За что?

По предварительной информации, бухгалтерия ЖЭСа нарушила порядок начисления и перечисления денежных средств в фонд социальной защиты, за что наказывают рублем. Взятка должна была благоприятно повлиять на уменьшение штрафных санкций.

## Кража замедленного действия

Можно ли похитить 100 миллионов рублей так, чтобы это заметили через год? Можно.

Прокуратура Московского района недавно возбудила уголовное дело в отношении нигде не работающего А.Червяка. Ему вменяется в вину то, что 10 марта 2003 года он, являясь директором ресторана "Папараць-кветка", "злоупотребил служебным положением и похитил" сто миллионов триста тысяч рублей.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

**АКТУАЛЬНО**

# Альтернативы соли нет, —

*говорят специалисты дорожных служб Беларуси.*

Каждый год в зимний период на дороги и тротуары страны высыпается до 300 тысяч тонн соли. Дорожники говорят, что сегодня это лучший способ борьбы с гололедицей. Соль — вещество отечественного производства, стоит недорого, и, кроме того, на ее доставку не требуется больших затрат.

*"Мы используем отходы калийных удобрений,* — поясняет начальник отдела содержания дорог БелдорНИИ **Валерий Хатковский**. — *Соли в чистом виде на дороги никто не сыплет, это было бы дорого. Такие же технологии используются и в Европе. Солигорскую соль закупает у нас Польша, Литва".*

Однако ученые давно доказали, что дорожная соль вовсе не безвредна. Больше всего от соли страдают почва и автомобили. Из-за коррозии корпусов машин, в окружающую среду поступает огромное количество ионов тяжелых металлов, железа, никеля, хрома, цинка. А московские биологи еще в 1997 году огласили ужасные цифры: ежегодно от соли гибнет более 30 тысяч деревьев, концентрация хлоридов зимой в городе превышает норму в 5—10 раз. По этой причине дорожники российской столицы практически отказались от соли. На московских улицах несколько последних лет в борьбе с гололедом применяется 6 видов жидких и твердых реагентов. Наиболее широко используется хлористый кальций модифицированный.

Однако наши специалисты говорят, что Беларусь еще не готова отказаться от соли. Например, чтобы использовать вместо соли хлористый кальций, понадобится изменить всю систему зимнего досмотра дорог. Кроме того, хлористый кальций используется жидким, а это значит, что для его хранения понадобятся специальные емкости. Кроме того, он значительно дороже отечественной соли и, как убеждают наши дорожники, не такой уж и безвредный.

А как в других странах, где зимой снежно и скользко, борются с гололедицей? В Швейцарии и Австрии, например, применяют фрикционные материалы — песок и мелкий щебень. В Японии в асфальтовом покрытии размещают спирали, по которым во время снегопада пропускают электрический ток. Асфальт нагревается, лед тает, и дорога становится чистой.

Наши ученые тоже не дремлют, определенные наработки у них есть. Они разработали и освоили производство новых противогололедных материалов — ингибиторов с пониженной коррозионной активностью. Но внедрить их в практику пока не могут. Нет денег.

В Комитете по автомобильным дорогам говорят, что в ближайшие годы на белорусские дороги будут сыпать все ту же вредную для машин и обуви соль. А это значит, что каждый вечер мы будем соскребать с сапог или ботинок белые солевые разводы. *"Можно обратиться в суд на дорожные службы,* — говорят юристы Белорусского общества защиты потребителей. — *Но нереально выиграть данный процесс. Технологии, которые используются в борьбе с гололедицей, утверждены на государственном уровне".*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПУЛЬС

## Камуністы Сяргея Калякіна — супраць павышэння цэн

70 чалавек узялі ўдзел у санкцыянаваным пікеце супраць павышэння цэн на жыллёва-камунальныя паслугі, які прайшоў 1 лютага на плошчы Бангалор у Мінску.

У інтэрв'ю БелаПАН сакратар Цэнтральнага камітэта ПКБ Алена Скрыган адзначыла, што галоўная мэта акцыі — прыцягнуць увагу ўлад да праблемы збяднення большасці насельніцтва краіны. "Зараз рост тарыфаў на камунальныя паслугі значна перавышае рэальны рост заработнай платы і пенсій. Разрэкламаваная ўладай жыллёва-камунальная рэформа звязана толькі да павышэння тарыфаў, а якасць абслугоўвання насельніцтва ў лепшым выпадку засталася на ранейшым узроўні", — заявіла А.Скрыган.

"Я перакананы, што моладзь не павінна заставацца ў баку ад гэтай праблемы, — дадаў да гэтага лідэр ЛКСМБ Дзмітрый Яненка. — Калі сёння маладыя людзі не будуць абараняць свае сацыяльныя правы, то заўтра яны будуць вымушаны большасць сваіх даходаў траціць на аплату ЖКГ, а не накіроўваць іх на адукацыю, харчаванне, адзенне і адпачынак".

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

## Самая нізкая зарплата — у вяскоўцаў

Атрымаўшы першую ў 2004 годзе зарплату, жыхары Віцебшчыны пераканаліся, што, як і летась, абяцаны прэзідэнтам яшчэ на 2002-і год сярэдні заробак, адпаведны сотні долараў ЗША, усё яшчэ застаецца марай для большасці рабочых і служачых.

Да гэтай адзнакі зарплата па выніках мінулагодняга снежня недарасла ў працаўнікоў гандлю і грамадскага харчавання (іх зарплата склала ў сярэднім 190 тысяч рублёў), а таксама — у рабочых і служачых сельскагаспадарчай вытворчасці (122,5 тысячы), у малодшага медыцынскага персаналу (160,5 тысячы рублёў).

Ненашмат перасягнула запаветны 100-доларавы рубеж снежаньская зарплата работнікаў культуры і мастацтва (204 тысячы).

Адносна высокую зарплату за апошні месяц 2003 года атрымалі на Віцебшчыне супрацоўнікі банкаў (504 тысячы рублёў) і органаў дзяржаўнага кіравання (400 тысяч). Даволі сціплыя заробкі на трамвайным і тралейбусным транспарце (ад 230 да 240 тысяч рублёў). Крыху больш за іх атрымалі работнікі жыллёва-камунальных службаў, а найлепшым чынам (вядома, адносна) абстаюць справы са студзеньскай зарплатай (г.зн. па выніках снежня) у работнікаў паліўнай прамысловасці, у металургіі, на трубаправодным транспарце і ў энергетыцы (вышэй за 500 тысяч рублёў). Але і гэтай зарплаце, магчыма, мала хто зайздросціў бы, калі б статыстыка паведаміла аб змяненні цэнаў і тарыфаў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Паляванне на ТБМ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Я стараюся пазбягаць пераліку прозвішчаў, бо абавязкова не назавеш некага, хто варты таго, каб ягоная праца была хаця б абазначана. Але як не сказаць пра нядаўна выдадзеныя ( канешне, не ў дзяржаўным выдавецтве) кнігі "Сучасная беларуская проза" і анталогію вершаў "Краса і сіла", складзеную Міхасём Скоблам, якія далі шырокую панараму пісьменнікаў, што актыўна і плённа працуюць у айчыннай літаратуры? Дарэчы, кнігі тыя купляюць даволі актыўна, што таксама гаворыць пра цікавасць чытача да роднай літаратуры. Як не сказаць, напрыклад, пра новы раман Эрнеста Ялугіна "Афганская пастка"? Вострасюжэтны палітычны дэтэктыў з сумнымі рэаліямі нашага жыцця захоплівае з першай старонкі. Аўтар жа, які не адносіцца да ліку "прабіўных", шукае магчымасці яго выдаць. Вось бы нашым палітычным партыям зацікавіцца раманам і дапамагчы аўтару! Не сакрэт, што жорсткае паляванне апошніх гадоў і на самыя гэтыя партыі неяк абасобіла іх ад творцаў, ад літаратуры, жывапісу і музыкі, і на выставах ці паэтычных вечарынах амаль не ўбачыш палітыкаў. А дарэмна!

Некалі наша палітычная пасляваенная эміграцыя, выдаючы газеты і часопісы, давала на іхніх старонках шмат (нават, на думку некаторых, зашмат) вершаў, паэм ды апавяданняў беларускіх літаратараў. Але менавіта мова, паэтычнае слова не далі беларусам растварыцца і знікнуць у іншых, больш магутных нацыях. Узгадваю, як, будучы ў гасцях у адной з нашых цудоўных беларускіх жанчын Нямеччыны Надзеі Мікалаеўны Барт (Юрэвіч), я пачула ад яе мноства вершаў, у тым ліку невядомага мне тады Х.Ільяшэвіча, а пасля і рамансы на музыку А.Карповіча. У гутарцы пра ролю літаратуры ў захаванні нацыянальнай свядомасці яна ўзгадала пра сваю сяброўку Надзею Касмовіч са Штутгарта, тут жа патэлефанавала. "А ведаеш, хто ў мяне ў гасцях?" Я ўзяла слухаўку і была ашаломленая: спадарыня Касмовіч напамяць працытавала мне верш з маёй першай кніжкі "Раніца"! А пасля стала чытаць і іншых сучасных аўтараў. Адкуль жа такое веданне нават маладых аўтараў, не кажучы ўжо пра мэтраў літаратуры? "Да беларускай літаратуры заўсёды звярталіся ў сваіх артыкулах і перадачах і С.Станкевіч, і Ю.Віцьбіч, і Я.Запруднік, — адказала яна. — Ды і мой муж заўсёды цікавіўся, што ж адбываецца ў савецкай Беларусі, ці жыве там яшчэ нашае слова"...

Слова, нягледзячы на няспынную русіфікацыю, якая ўзмацняецца з кожным годам, усё ж яшчэ жыве. Яно не толькі ў творах пісьменнікаў, якія цяпер, каб дабрацца да чытача, праходзяць ледзь не паласу з перашкодамі, з мінамі і акопамі, нібыта лазутчыкі ў ваенныя часы. Не сакрэт, што ёсць пэўныя спісы тых, каго не падпускаюць ні да дзяржаўнага тэлебачання, ні да радыё, нібыта яны і сапраўды лазутчыкі чужой дзяржавы — чужой на сваёй зямлі! Ёсць і іншыя грамадскія арганізацыі, якія моцна занепакоены становішчам, якое склалася на сёння, калі зноў, як і ў савецкія часы, у гарадах амаль няма беларускіх школ, — такія, як Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Але Таварыства беларускай мовы шчыруе найбольш, яно не дае спатолі чыноўнікам, нястомна нагадваючы ім аб законах, якія не працуюць, аб іхнім абавязку перад дзяржавай, якая дэ-юрэ існуе як незалежная і называецца пакуль што, дзякуй Богу, не "Северо-Западный край" (у якім, дарэчы, не былі б яны ўжо ні міністрамі, ні кіраўнікамі дэпартаментаў, ні ўвогуле кім-небудзь значным, а толькі тымі запраданцамі, якімі грэбуюць і самі пакупнікі).

Ганебна чуць сёння ад нашых міністраў суцэльную рускую мову, непрыемна бачыць, як кіраўнікі беларускіх тэатраў, артысты, музыкі, што носяць званне народных і заслужаных, дэманструюць сваю непавагу да тытульнай нацыі (ні разу апошнім разам не чула беларускай мовы ў інтэрв'ю Я.Паплаўскай ды А.Ціхановіча, Г.Давыдзькі ці каго-небудзь з "Песняроў"(за выключэннем тых, у якіх Л. Барткевіч). Дарэчы, заўсёды па-беларуску выступае хіба што толькі М. Фінберг, дзякуй яму і за нястомную прапаганду нацыянальнай песні! Колькі разоў бывае і такое: артысты спяюць песню, прачытаюць верш па-беларуску і тут жа кланяюцца публіцы: "Спасибо!", так што адразу бачыш, што ім нацыянальнае — толькі служба)... Але ўдвая больш ганебна чуць, як нават некаторыя беларускія пісьменнікі, угодліва схіляючыся перад якім-небудзь журналістам СТБ, якое найбольш агрэсіўна рускамоўнае, таксама загавараваюць на іншаземнай мове, нібыта іх тут, у сваёй краіне, нехта не зразумее, нібыта іх не запішуць, калі яны стануць гаварыць на той мове, на якой пішуць, вучачы грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці тых жа самых журналістаў, а не патураючы ім у нігілізме...Тады ўзгадваецца даўняе, але вельмі сучаснае сёння слова Максіма Багдановіча:

*Біце ў сэрца іх, біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*

У Алеся Жука ёсць цудоўнае апавяданне "Паляванне на апошняга жураўля". Яно таксама ўзгадваецца, калі ў нашай краіне пачынаецца чарговае паляванне — на дзяцей з беларускага ліцэя імя Коласа, на творцаў, на грамадзянскую супольнасць, якая ва ўмовах татальнага алкагалізму, росту злачынстваў ды духоўнай дэградацыі грамадства магла б зрабіць непараўнаўча болей, чым сёння, калі яна адбіваецца ад "паляўнічых", што абкладваюць чырвонымі сцяжкамі кожнае смелае, жывое слова, думку, дзеянне.

У кожнай газеце рэгулярна з'яўляецца зводка злачынстваў, ад якіх кроў стыне ў жылах. Блізкія людзі звярэюць і забіваюць адзін аднаго з неверагоднай жорсткасцю, выганяюць на вуліцу старых і нямоглых, рабуюць сяброў. І на гэтым фоне зусім бяскрыўдным бачыцца адзін, здаецца, зусім дробны выпадак, які, аднак, глыбока мяне закрануў.

У Доме літаратара ішла прэзентацыя кнігі "Чарнобыльскія матылі", якую напісалі і аздобілі дзеці, што некалі перажылі Чарнобыль і яго наступствы на забруджанай зямлі. (Дарэчы, за той час, пакуль выходзіла кніга, трое юных мастакоў памерлі.) Але калі тэлебачанне папрасіла сказаць колькі слоў адну з дзяўчат, ужо студэнтку, тая адмовілася.

Я бачыла, што ёй хацелася выступіць. Чаму ж адмаўляецца? І яна нарэшце сказала шчыра: не хацела, каб яе сябры ведалі, што яна з чарнобыльскай зоны! "Хлопцы са мною не стануць сустракацца, а сяброўкі таксама будуць баяцца, што я — радыеактыўная!"

Грамадства, якое настолькі бязлітаснае да нямоглых, якое не шкадуе, не дапамагае слабым — такое грамадства сапраўды трэба лячыць, і мастацкае слова — светлае, чыстае, добразычлівае — займае ў такім псіхалагічным "лячэнні" не апошняе месца. Гэта добра ведалі ў старажытнасці і на тое зусім забываюцца сёння ў свеце, дзе класічная літаратура ўжо даўно падаецца ў адаптаваным выглядзе і дзе героі Гамера гавораць вестэрнавым слэнгам. Ну, але гэта ўжо — тэма іншай гаворкі...

А пакуль што неадкладна трэба дапамагаць ТБМ. Пісаць пратэсты, заявы, збіраць ахвяраванні...

Таварыства беларускай мовы не павінна стаць тым апошнім жураўлём, які яшчэ лятае над краінай і тужліва-настойліва нагадвае — пра прыроду, у якой зніатаваны чалавек, яго побыт і ягонае Слова, пра душу, якой мулка ў чужым эгрэгары, пра многае іншае, без чаго мы будзем проста тутэйшымі, проста насельніцтвам, крывёй і мускуламі якога будуць, як і спрадвечна, расплачвацца чужыя народы.

ЗНАЙ НАШИХ!

# Мировой стандарт

**«Я не встречал лабораторий, подобных «БЕЛЛИС», в этой части мира, — *сказал аудитор из Германии — профессор Вольфганг Пфайфер.* — Я знаю, что все остальные лаборатории на территории бывшего СССР, в отличие от «БЕЛЛИС», не удовлетворяют требованиям мировых стандартов и лишены международной аккредитации».**



*Все сослуживцы Юрия Александровича Пашика (второй справа в первом ряду) хотят, чтобы Беларусь жила по мировым стандартам.*

Многое значит в деловом мире мнение немецкого профессора В.Пфайфера. А потому, когда я узнала о том, какую оценку он дал белорусскому испытательно-сертификационному центру "БЕЛЛИС", я сразу решила побеседовать с его директором **Юрием Александровичем ПАШИКОМ**. С первых слов собеседника почувствовалось, что передо мной — профи высшей пробы, человек с государственным мышлением.

— Можно, конечно, реализовывать товар на рынке в Фаниполе, где он будет стоить недорого, или на Комаровке в Минске, где цена у него уже будет несколько выше, а можно продавать его по достойной цене в элитном столичном магазине или за рубежом, — заметил директор белорусского испытательно-сертификационного центра "БЕЛЛИС" Юрий Пашик. — И наша задача — продвинуть белорусский товар по дорогим ценам на дорогие мировые рынки. Но нужно, чтобы качество его соответствовало этим ценам!

Правительство поставило задачу: обязательно оценивать продукцию, которая производится в стране, на ее соответствие международным стандартам. Правительство заявило: **хватит рассказывать сказки о том, что нас куда-то не пускают, потому что никто никого нигде не ждет!** Давайте создавать продукт, который соответствовал бы европейским и мировым требованиям! Если эта инициатива правительства не будет спущена на тормозах, многие руководители предприятий, в конце концов, вынуждены будут задуматься, что же они все-таки производят? Ведь некоторые изготавливают продукцию, которая уже никому не нужна! Используя какие-то старые связи, они умудряются проталкивать ее в "непродвинутые" регионы на российский рынок. Но ведь это же до поры до времени! Для многих очень удобно, перекладывая с больной головы на здоровую, подменять проблему технического оснащения и качества проблемой политической, а самим комфортно жить, выпуская то, что производилось вчера и даже позавчера...

**— Общеизвестно, что наша промышленность испытывает серьезные финансовые трудности, и это не способствует модернизации производства и повышению качества продукции. Ваши клиенты — производители электротехнической продукции. Многие ли из них выпускают изделия, соответствующие мировому уровню?**

— Я считаю, что среди белорусских предприятий есть очень перспективные, и мы для них уже провели необходимые работы или проводим их в настоящее время. Это "Атлант", "Брестгазоаппарат", "Ремеза", "Ремком", "Горизонт", "Витязь", "Светоприбор" и другие. "Горизонту", например, уже дано право маркировать некоторые свои модели знаками соответствия международным стандартам. Получить такое право очень сложно.

**— Вряд ли сложнее, чем "БЕЛЛИСу" получить право определять, соответствует ли тот или иной товар международным стандартам и европейским директивам. Это право вам было дано, по-моему, весной прошлого года?**

— У нас уже была европейская аккредитация, которая являлась базой для соглашения между "БЕЛЛИС" и ведущими мировыми институтами по сертификации. В рамках этих соглашений мы проводили европейскую сертификацию продукции ряда белорусских и российских предприятий. На основании наших документов признанные международные институты выдавали свои сертификаты соответствия продукции европейским стандартам. Как я уже говорил, для предприятия это серьезный маркетинговый ход, который не только дает право выхода на международный рынок, но и позволяет повышать цену продукции при продаже.

В марте прошлого года закончился переход от прежнего международного стандарта, который регламентировал требования к испытательным лабораториям, к новому. И "БЕЛЛИС" успешно прошел переаккредитацию, которую проводили технические аудиторы из Германии — профессор Вольфганг Пфайфер и Клаус Фаустманн.

**— Насколько я знаю, это было не так-то просто. Я беседовала с профессором Пфайфером, и он сказал буквально следующее: "Я был в Минске за полгода до аккредитации и очень беспокоился тогда за "БЕЛЛИС", потому что его оборудование не совсем удовлетворяло международному уровню. Но, вернувшись через полгода, увидел, что сотрудникам удалось решить все проблемы, а это, я знаю, в Беларуси сделать очень непросто. Для хорошей работы инженеру нужны соответствующие условия, соответствующее оборудование, а главное — информация о том, что происходит в этой области на международной арене. И хотя со всем этим в вашей стране сложно, у меня, заявил Пфайфер, нет сомнений, что белорусские инженеры — специалисты очень высокой квалификации!"**

— За полгода мы действительно проделали колоссальную работу! Международные аудиторы говорят предельно просто: "Если вы используете современное зарубежное оборудование, то у нас нет вопросов, поскольку мы с ним знакомы, но если оборудование у вас отечественное или бывшее советское, то вы должны доказать, что оно обеспечивает испытания на международном уровне!" Так что перед нами стояла очень сложная техническая задача, с которой все-таки удалось справиться. На мой взгляд, сертификация — один из самых сложных видов бизнеса, поскольку она предусматривает очень большой объем инженерной работы. А техника постоянно совершенствуется, и нужно знать все современные методы испытаний, нормы, требования, то есть мы не можем один раз что-то сделать и этим обеспечить себе спокойное существование на два-три года. Мы должны постоянно осваивать и внедрять новации, а наши специалисты обязаны знать конструкцию приборов и оборудования даже лучше, чем те, кто производит и разрабатывает эту технику. Так что аккредитация, которую мы получили, — это признание нашего испытательного центра крупнейшей европейской организацией по аккредитации.

**— Но что она конкретно дает вам?**

— Эта аккредитация явилась основой доверия, благодаря которому Союз немецких электриков (VDE) принял решение открыть в Беларуси свой офис на базе "БЕЛЛИС". VDE — один из самых престижных институтов сертификации в мире. Присутствие здесь его представительства позволит еще более упростить и удешевить работы по оценке соответствия белорусских товаров европейским директивам и получить право маркировать их знаками данного института и знаком "СЕ". А это обуславливает очень высокий имидж продукции и возможность продавать ее по достойным ценам на рынке Европы. В корпоративных кругах VDE называют "Ватиканом в Ватикане". Это авторитетнейшая организация, созданная 80 лет назад, которая имеет представительства не менее чем в 40 странах мира, охватывает порядка 7 тысяч предприятий в различных странах и ежегодно проводит примерно 16 тысяч испытаний 200 тысяч типов электротехнической продукции. Быть ее представительством для нас — высокая честь! Это, естественно, поднимает наш статус и авторитет!

**— Простите за нескромность, но скажите: материально что вы будете от этого иметь?**

— Во-первых, специалисты "БЕЛЛИС" смогут более тесно работать с лучшими умами мира, которые занимаются разработкой мировых стандартов и методов испытаний. Тесное сотрудничество с ними позволит и нам использовать все то лучшее, что есть сегодня в Европе и в мире. Договоренность следующая: если под какую-то продукцию испытательного оборудования у нас нет — что вполне естественно, поскольку невозможно в одном месте сосредоточить оборудование для всей гаммы изделий — то с нашим участием и под нашим контролем она будет испытываться в Германии.

**— А в финансовом отношении что это дает "БЕЛЛИС"?**

— Дополнительный доход, поскольку мы становимся более привлекательными и даем нашим предприятиям возможность выходить со своей продукцией на европейский рынок.

**— По мнению руководителей некоторых предприятий, эта возможность обходится слишком дорого...**

— Я знаю, в кулуарах говорят, дескать, Пашик слишком много денег берет и предъявляет очень высокие требования! Но дешевле наша работа стоить просто не может: нас не субсидирует государство, у нас нет спонсоров, и все почему-то забывают, что за рубежом право маркировки изделий знаками соответствия европейским директивам ведущих мировых институтов стоит в 3—5 раз дороже, чем у нас! Оценка соответствия, которая престижна и выгодна для производителя, также не может стоить дешево. Что же касается стоимости наших работ, то любая цена складывается из основных частей: затратной части и прибыли. Прибыль наша меняется незначительно, а международная аккредитация и контакты с зарубежными партнерами стоят для нас больших денег. Современное испытательное оборудование, которое нам необходимо, тоже стоит очень дорого. А мы даем предприятиям реальную возможность проводить сертификацию на своей территории, на родном языке, без трудных согласований, без отправки людей за рубеж, без дополнительных финансовых затрат и, что важно, без очередности, с реальной возможностью оперативно проводить необходимые изменения конструкции и технологии.

**— За рубежом бывают очереди на испытания?**

— Еще какие! Мы предлагаем выиграть время, а время — это деньги: сегодня не продал, а завтра продукция уже может быть никому не нужна. Дорога ложка к обеду!

**— "БЕЛЛИС" — акционерное общество, контрольный пакет акций которого принадлежит государству. Я знаю, что летом состоялся аукцион, на котором была выставлена часть государственных акций. Их кто-нибудь купил?**

— Выставив часть акций "БЕЛЛИС" на конкурсную продажу, государство приняло разумное решение. Целью конкурса было привлечение дополнительных средств в объеме не менее 200 тысяч евро на развитие предприятия. К акциям был проявлен интерес за рубежом. Но, не вдаваясь в подробности, могу с уверенностью сказать: нам нужны не просто деньги, а "умные" деньги, которые принесут инвесторы, заинтересованные в развитии предприятия, а не в спекулятивных операциях с ценными бумагами или в использовании иных ресурсов "БЕЛЛИС". И в связи с этим процедура организации подобных конкурсов должна быть продумана до мелочей и соответственно организована.

Например, по моему мнению, не совсем удачно было назначить проведение конкурса на 27 августа, официально объявив об этом лишь в июле. Известно, что во всем мире именно на этот период приходится спад деловой активности в связи с летним отдыхом и отпусками. Организация коммуникации и обеспечение заинтересованных сторон необходимыми документами и информацией также, по моему мнению, должны быть построены несколько иначе. Об этом можно говорить долго, но, я думаю, лучше это сделать в следующий раз. Если кратко, то привлечение серьезных инвесторов — очень сложный и тонкий процесс, готовиться к нему надо основательно и, естественно, не бояться многие аспекты обсуждать публично.

**— Чем, кроме сертификации продукции, занимается сегодня "БЕЛЛИС"?**

— Мы начали заниматься разработкой белорусских государственных стандартов. Ведь многие наши предприятия ориентируются в основном на очень старые стандарты. Это либо бывшие стандарты СССР, либо межгосударственные и российские, которые отстают от международных на 5—20 лет.

**— Не проще ли сразу пользоваться западными?**

— Западными стандартами большинство наших производителей пользоваться не может. Во-первых, они написаны на иностранных языках. Во-вторых, их нужно понимать. Это же не художественная литература, а сложные технические документы. Чтобы в них разобраться, в одном человеке должны быть сосредоточены соответствующее образование, знание языка и практический опыт работы в области испытаний. Это считанные люди в мире, уникальнейшие специалисты!

**— Решение этой проблемы ускорит развитие нашей промышленности?**

— Безусловно! А еще ее развитие ускорит решение проблемы межведомственных отношений. В Беларуси, например, в сертификацию вплетена процедура гигиенической регистрации и регламентации товаров. И те требования, которые выдвигает Минздрав, в большинстве случаев я не могу объяснить зарубежным партнерам. Но я верю в то, что в этом министерстве работает большое количество руководителей и специалистов, с которыми я лично знаком, для которых государственные интересы превыше ведомственных и личных.

В настоящее время я возлагаю большие надежды на работу межведомственной группы специалистов, которая в ближайшее время будет создана по инициативе главного государственного санитарного врача В.И.Ключеновича. Однако это тема для отдельного разговора.

**— В чем, с Вашей точки зрения, перспектива развития белорусской экономики?**

— В Беларуси пока не найдено урановой руды, кимберлитовых трубок или больших запасов нефти и природного газа. И я считаю, что перспектива государства заключается в развитии предприятий, производящих конечную продукцию. Собственно говоря, в Советском Союзе Беларусь была сориентирована прежде всего именно на это. Правда, произошла подмена понятий: нас унизительно называли "сборочным цехом", хотя правильнее было бы некоторых наших соседей называть "сырьевыми придатками" Беларуси. И это было бы справедливо, потому что развитые страны, имеющие природные ресурсы, основные усилия направляют не на продажу этого богатства, а на развитие высокотехнологичных предприятий, производящих конечную продукцию. И перспектива Беларуси именно в создании конкурентоспособного продукта, который можно продавать на мировых рынках. Другого выхода у нас просто нет.

**Анна АРТЮШКЕВИЧ.**

ПРОТЕСТ

## Отступит ли кризис после 18 февраля?

Около 300 работниц Слонимской камвольно-прядильной фабрики собрались в конце прошлой недели возле здания городского исполнительного комитета. Они требовали обеспечить их работой, за которую будут получать достойную заработную плату.

Дело в том, что на протяжении последних трех лет ОАО "Слонимская КПФ" работает с перебоями. Положение особенно ухудшилось в прошлом году. Фабрика работает 3—10 дней в месяц, а работницы получают 30—70 тысяч белорусских рублей, которые выплачиваются с месячной задержкой. Как и пособия по уходу за детьми (большинство работниц фабрики — женщины).

Более того, на фабрике постоянно идет сокращение рабочих мест. Но в основном люди увольняются сами — на такую зарплату прожить невозможно. Работницы фабрики хотели встретиться с председателем горисполкома. Им предложили направить 8—10 человек для переговоров. Но женщины отказались. И тогда, через полтора часа стояния на крыльце исполкома, к камвольщицам вышел руководитель местной вертикали и директор фабрики. Они предложили обсудить проблемы с участием представителей концерна "Беллегпром" и Гродненского облисполкома 30 января в актовом зале предприятия в более спокойной обстановке.

В этот день на фабрике прошло собрание с участием заместителей председателя Гродненского облисполкома и концерна "Беллегпром", руководства Слонимского исполнительного комитета. В актовый зал пришло около восьмисот работниц предприятия. Директор ОАО сообщил, что на фабрике есть 20 тонн шерсти, которой, по мнению камвольщиц, хватит только на неделю работы. Представитель областной вертикали проинформировал, что в ближайшее время массовых сокращений на предприятии не будет. Руководителю акционерного общества поручено до 18 февраля представить план по выводу предприятия из кризиса.

*www.praca-by.info*

## Прызы «Белвеста» акупяцца шматкратна

"Пакупнік заўжды мае рацыю". Гэтую старую, як свет, ісціну вырашылі скарыстаць для надзённых патрэб свайго прадпрыемства маркетолагі віцебскай абутковай фабрыкі "Белвест".

Яны запрасілі да ўдзелу ў анкетаванні каля 700 пакупнікоў фірменнага белвестаўскага абутку з Беларусі, Украіны і Літвы. Каб заахвоціць удзельнікаў акцыі, арганізаванай для выяўлення пакупніцкіх патрэб, фабрыка зрабіла 50 анкет выйгрышнымі, выдзеліўшы для рэспандэнтаў каштоўныя падарункі — абутак, майкі і календары з лагатыпам прадпрыемства, раскошныя каталогі "Белвеста", які больш за 15 год свайго існавання ўтрымліваецца на самым версе абутковай "піраміды" Беларусі, пастаўляючы ў гандлёвую сетку краіны каля 2-х мільёнаў пар мужчынскіх і жаночых ботаў і чаравікаў у год.

Прадукцыя "Белвеста" карыстаецца ўстойлівым попытам не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі — у Расіі — ад Санкт-Пецярбурга да Уладзівастока, а таксама ва ўсіх краінах СНД і ў шэрагу былых савецкіх рэспублік, якія не ўвайшлі ў Садружнасць.

Але, нягледзячы на стабільны поспех сваіх вырабаў, кіраўніцтва фабрыкі лічыць, што пульс попыту мусіць быць пад кантролем. Таму не будуць лішнімі анкетаванні пакупнікоў, а выдаткаваныя на гэта грошы вернуцца на прадпрыемствы значна большымі прыбыткамі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Першы хуткі электрацягнік

1 лютага на Беларускай чыгунцы пачаў курсіраваць першы хуткі электрацягнік па маршруце "Баранавічы—Мінск—Ждановічы".

З Баранавічаў ён адпраўляецца ў 6.34 раніцы, прайшоўшы цераз Мінск, спыняецца на станцыі Мінск-Пасажырскі ў 8.34, а на канцавую станцыю Ждановічы прыбывае ў 9.09. Назад са Ждановічаў электрацягнік адпраўляецца ў 15.02 і прыбывае ў Баранавічы ў 17.40.

Цягнік робіць прыпынкі на станцыях і прыпыначных пунктах "Пост № 1", "Гарадзея", "Стоўбцы", "Койданава", "Фаніпаль", "Курасоўшчына", "Лябяжы".

Хуткі электрацягнік будзе курсіраваць да Ждановічаў і назад штодзённа, і толькі па панядзелках яго маршрут пройдзе ад Баранавічаў да Мінска і назад.

**Аляксей АРЭШКА.**

## В Витебске бастуют... объявив голодовку

*Вчера в Витебске на рынке "Мишель" проходила забастовка индивидуальных предпринимателей — там разместились 32 голодающих. Бастовали три городских рынка — "Привокзальный", "Мишель" и "Петровский".*

Предприниматели выдвинули ряд требований, среди которых: отмена кассовых аппаратов, отмена решения об изменениях статуса торговых объектов и рынков, персональная ответственность зампреда Витебского горисполкома, начальника отдела торговли, услуг и питания и прочих ответственных чиновников отделов торговли городского и областного исполкомов...

Подробнее об этой ситуации корреспондент "Народной воли" расскажет в ближайших номерах газеты.

**Антон ЛЮБИЧ.**

*Витебск.*

## Добра, што самалёт не патрабаваў...

*Надзвычайнае здарэнне адбылося ўвечары 2 лютага ў цэнтры Мінска.*

Як расказалі БелаПАН супрацоўнікі ўпраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС Беларусі, у 19.15 у краме "Далёкаўсходні флагман" 31-гадовы непрацуючы грамадзянін, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, узяў у заложнікі 20-гадовую прадаўца-касіра. Супрацоўнікам міліцыі, якія прыбылі на месца здарэння, злачынца вылучыў патрабаванне прадаставіць яму зброю і боепрыпасы.

У 19.43 падчас перамоў, што праводзіліся адным з кіраўнікоў Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС краіны, злачынца быў затрыманы. У дачыненні да яго заведзена крымінальная справа па артыкуле 291 ч.2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Захоп заложніка".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Пад лёд праваліўся трактар з вадзіцелем

Раніцай 1 лютага ля вёскі Чырвоны Бор Чачэрскага раёна пры пераправе праз раку Сож у ваду праваліўся трактар Т-25 з вадзіцелем.

Як паведаміла прэс-служба Гомельскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях, трактарам кіраваў 28-гадовы індывідуальны прадпрымальнік, жыхар Чырвонага Бора. Малады чалавек загінуў. Група вадалазаў пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада абласнога Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, якая прыбыла на месца здарэння, спачатку падняла цела загінуўшага, а затым узялася за работы па пад'ёме трактара.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Зараз злачынцам дадуць прыкурыць

Пагражаючы пісталетам-запальнічкай, два злодзеі абрабавалі жыхара вёскі Знаменка Брэсцкага раёна.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, 2 лютага каля гадзіны ночы два нецвярозыя мужчыны пашкодзілі кола "Жыгулёў" 21-гадовага жыхара Знаменкі. Пагражаючы падобнай на пісталет запальнічкай, яны знялі з аўтамабіля акумулятар, злілі бензін і забралі ў гаспадара сотавы тэлефон. Пасля гэтага злачынцы ўцяклі на сваім аўтамабілі.

Нягледзячы на пагрозы, пацярпелы пазваніў у міліцыю. Быў уведзены план "Сірэна". Ноччу ў мікрараёне "Кавалёва" Брэста аўтамабіль затрымалі. У вадзіцеля — непрацуючага жыхара Брэста — супрацоўікі ДАІ канфіскавалі пісталет-запальнічку, бензін і акумулятар. Неўзабаве быў затрыманы і яго саўдзельнік — раней судзімы за хуліганства жыхар вёскі Чарнаўчыцы Брэсцкага раёна.

У дачыненні да затрыманых распачата крымінальная справа, якая прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам ад 6 да 15 гадоў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

